# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА 15 КАП.

N 21-22



АСІНСТАН УСТУПІЎ У СТРОЙ!

ФОТО УЛ. СЕМЯНЯКІ

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1931 ГОД

# САВЕЦКАЯ КРАІНА

НА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧЫ, НАВУКОВА-ПАПУЛЯРНЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

**„САВЕЦКАЯ КРАІНА“**—НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧЫ, НАВУКОВА-ПОПУЛЯРНЫ МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКІ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС—ЗЬМЯШЧАЕ АРТЫКУЛЫ НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА, НАВУКОВА-ПОПУЛЯРНАГА, ПАЛІТЫЧНА-МАСАВАГА, ПУБЛІЦЫСТЫЧНАГА, АПІСАЦЕЛЬНАГА ХАРАКТАРУ, А ТАКСАМА КРАЯЗНАЎЧЫЯ НАРЫСЫ, МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКУЮ КРЫТЫКУ, РЭЦЭНЗЫІ І БІБЛІОГРАФІЮ.

**„САВЕЦКАЯ КРАІНА“**—МАГУТНЫ БАРАЦЬБІТ ЗА МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКУЮ ІДЭОЛЁГІЮ, ЗА ДЫЯЛЕКТЫЧНЫ МЭТОД МАРКСА—ЛЕНІНА Ў КРАЯЗНАЎСТВЕ І НАВУЦЫ, МАГУТНЫ БАРАЦЬБІТ ЗА ГЕНЭРАЛЬНУЮ ЛІНІЮ КОМУНІСТЫЧНАЕ ПАРТЫІ.

**„САВЕЦКАЯ КРАІНА“**—ВАЯЎНІЧЫ ЗМАГАР З ВАРОЖЫМІ МАРКСЫЗМУ-ЛЕНІНІЗМУ ПЛЫНЯМІ Ў КРАЯЗНАЎСТВЕ І НАВУЦЫ, СТАВЯЧЫ ЗАДАЧУ ВАЯЎНІЧА ЗМАГАЦЦА З КОНТРРЭВОЛЮЦЫЙНЫМ БЕЛАРУСК. НАЦЫЯНАЛ-ДЭМОКРАТЫЗМАМ ЗА ПРОЛЕТАРСКУЮ НАВУКУ І КУЛЬТУРУ, ЗА САВЕЦКАЕ КРАЯЗНАЎСТВА.

**„САВЕЦКАЯ КРАІНА“**—СТАВІЦЬ ЗАДАЧАЙ МОБІЛІЗАЦЫЮ ШЫРОКІХ МАС НА ДАСКАНАЛАЕ НАВУКОВАЕ ДАСЬЛЕДВАНЬНЕ ВЫТВОРЧЫХ СІЛ БССР У ІНТАРЭСАХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА І НА НЕПАСРЭДНЫ ЎДЗЕЛ У ГЭТЫМ БУДАЎНІЦТВЕ.

**„САВЕЦКАЯ КРАІНА“**—ЗА САВЕЦКАЕ КРАЯЗНАЎСТВА.

**„САВЕЦКАЯ КРАІНА“**—ЗА ПЕРАБУДОВУ ЎСЕЙ КРАЯЗНАЎЧАЙ ПРАЦЫ НА НОВЫХ ВЫТВОРЧЫХ АСНОВАХ. КОЖНЫ ЗАВОД, КОЖНАЯ ФАБРЫКА, КОЖНЫ САЎГАС, КОЛГАС—ДАЁШ КРАЯЗНАЎЧЫЯ ЯЧЭЙКІ ДЛЯ ВЫВУЧЭНЬНЯ ВЫТВОРЧЫХ СІЛ У ІНТАРЭСАХ ПАСЬПЯХОВАГА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА.

**„САВЕЦКАЯ КРАІНА“**—ОРЫЕНТУЕЦЦА НА МАСАВАГА КРАЯЗНАЎЦУ. ПАРТЫЙЦЫ І КОМСАМОЛЬЦЫ, БЕСПАРТЫЙНЫЯ РАБОЧЫЯ, КОЛГАСЬНІКІ, БАТРАКІ, БЕДНАТА І ЛЕПШАЯ ЧАСТКА СЕРАДНЯКОЎ, СТУДЭНЦТВА, ВУЧНЁЎСКАЯ МОЛАДЗЬ, ВЯСКОВАЯ І ГАРАДЗКАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ, АДДАНАЯ СПРАВЕ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА—АКТЫЎНА ПІШЭЦЕ Ў ЧАСОПІС ВАШЫ КРАЯЗНАЎЧЫЯ ДОПІСЫ.

**ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| На год | | На 9 м. | | На 6 м. | | На 3 м. | | На 1 м. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 4 | — | 3 | 25 | 2 | 25 | 1 | 25 | — | 50 |

Падпіска з кожнага месяца

## ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:

У бюро падпіскі „Кніга-Поштай“ (Менск, Пляц Волі, 5), у рэдакцыі часопісу (Менск, рог Ленінскай і Унівэрсытэцкай, 29-35 Краязнаўства), ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых і акруговых краязнаўчых організацыях і ва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзярж. Выдавецтва і інш.

САВЕЦКАЯ КРАІНА ПРАДАЕЦЦА: у Цэнтральным бюро Краязнаўства пры Бел. Акадэміі Навук, ва ўсіх аддзяленьнях Белдзяржвыдавецтва і ва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

Лістапад 1930
№ 21-22

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 63.
Тэл. 17-09

## АСІНСТАН ЗАГАВАРЫЎ



Фото Ўл. СЕМЯНЯКІ

А чаму? Таму што мы не лятуны якія-не будзь (сёньня тут, а заўтра там, бегай, мяняй работу, лётай з канца ў канец!..).

Было в даць, што ён нездаволены сваёю гаворкаю, што мацней і больш выразную думку ён стараецца выказаць. Ён вадзіў пальцамі па ілбе, жмурыў вочы.

—...Я скажу пра сябе. Я рабіў дагэтуль дрэнна? Не апошняя-ж я тут сьпіца ў калясе! Я сваю норму вырабляў, нават яшчэ больш. Але я сам ведаю, гэтага мала! І кожны лятун, нават прагульшчык часам можа сваю норму вырабіць. Я на якім грунце стаю тут?..

Зноў было відаць, што занадта слаба ён уладае словам, каб выказаць свае моцныя думкі.

— ...От калі я калісьці спаткаўся быў з Весялоўскім і Гімпалем у лесе, чорт ведае дзе, блізкі сьвету адсюль!.. Яны ведаюць... Дык чаго мяне дрэнчыла тады?.. Чаму мне тады было — хоць тапіся?.. Яны ведаюць, могуць расказаць...

Весялоўскі і Гімпаль успомнілі тады, як Вінгель разьвітваўся з імі на Беласточчыне. Гэтак сам і ён гаварыў тады: штосьці хацеў выказаць большае, вялікае, а толькі расхвальваўся і нарэшце, махнуўшы рукою, пацалаваўся, і зачырванеўся ўвесь.

— Тады я чаго глядзеў, да чаго ішоў, чаго шукаў і за што ваяваў? Ні ўзад падацца, ні ўперад. Усё адно, як у моры шукаеш цьвёрдае зямлі пад нагамі... Я гавару, таварышы, што я цяпер павінен стаяць за тое, што трымаю ў руках. Сам-жа сябе я павінен бараніць ці не?

Тут яго думку ўсе зразумелі. Хтосьці падказаў:

— Ну, адным словам, ты заклікаеш усіх да няспыннага ўдарніцтва?

— Але. Гэта і ёсьць, па-мойму, тыя самыя вытворчыя манэўры. Гнаць і гнаць работу наперад, аж пакуль ня будзе перадышка дзе-небудзь.

— Дзе-небудзь на першым паўстанку соцыялізму! — кінуў радасна хтосьці з комсамольцаў.

— Але, але... Таварышы, — падняў высока тут голас Вінгель, — я гавару от што: першае — заступаць зьмене пасьля зьмены адразу, няспыняючы варштату, каб работа ішла кругла цэлы дзень. Другое: увесь цэх, скажам, разьбіць хутчэй на ўдарныя брыгады і кожная брыгада каб мела, скажам, сваю перадатачную брыгаду зьверху, а гэтак сама і зьнізу. От, скажам, брыгада токарнага цэху — мае сваю папярэднюю брыгаду ў ліцьцёвым, а пасьля ў зборачным...

— Перавесьці ўвесь завод на сыстэму скразных брыгад?

Вінгель гаварыў пасьля гэтага ня доўга. Ён неўзабаве зноў пачаў выяўляць нездаволенасьць сам сваімі словамі і нарэшце сказаў некалькі слоў зноў пра ранейшае сваё блуканьне ў пустэчы поўнага сьвету. Але гэта дзейнічала мо' нават лепш за доўгія прамовы спрытнага прамоўцы. Яго разумелі ўсё. Ён нескладнаю сваёю прамоваю паддаў агню сходу. Пайшлі заявы пра законтрактаваньне, пра падвышэньне лічбаў вытворчасьці. Пайшло — пра новую сыстэму (хоць яна і ня была новая, але была ў заняпадзе дагэтуль).



...ён нескладанаю сваёю прамоваю паддаў агню сходу...

З дню ўдарніка частка заводу пачала выпрабоўваць новую сыстэму. Вінгель склаў першую моцную гэтакую брыгаду ў сваім цэху. Ён проста такі зьмяніўся. Стаў больш рухавы, але больш і пануры. Яшчэ менш стаў гаварыць. Ён гнаў работу няміласэрдна. „Гэта не кампанія, — гаварыў ён, — гэта не кампанія".

Вінгелева брыгада, і на манэўрах, і пасьля іх ішла наперадзе.





БАРЫС МАЛКІН
МЭТАЛЮРГІЧНЫ ЗАВОД
з цыклю „БУДАЎНІЦТВА“

# Чаму стагнала і плакала медзь

Апавяданьне Іл. Барашкі

Малюнкі Давідовіча

## I

Тэй ноччу грозна разышліся хвалі Дону. Коціцца адна хваля, за ёю другая, трэцяя... Вецер бязьлітасна рве парусьнікі станічныя, зрывае дахі з хат казацкіх, нявечыць, кідае вобзем. ды так - што і рады няма... Шум людзкі патанае ў гэтым стыхійным, страшэнным сьвісьце стэповага начнога ветру. Восенскі вецер працінае наскрозь адзежыну. Захутваюцца — утульваюцца партызаны чырвонаармейцы ад сіверу, ад золі, катора пара змагаючыся з дзянікінцамі за Донбас, за дыктатуру... Маўчаць шахты. Воблагам у нетрах іхных ляжыць каменны Данецкі вугаль—чорнае золата, што прыводзіць у рух, што ажыўляе халодныя сталёвыя часткі рухавікоў... Шырокі прасторны стэп! Роўнядзь, чарназём, зялёныя прасторы стэповага лугу, пазалочаныя восеньню кусты алешніка ды рабіньніка ўсё было пакрыта чорнаю коўдраю тае дзікае восенскае ночы героічнага 1918 году.

...І ў тую чорную восенскую ноч на станцыю С прыбыў цягнік. З нецярпеньнем чакалі гэтага цягніка мясцовыя комунары, мясцовы рэвалюцыйны камітэт і вайсковыя організацыі. Цягнік спазьніўся на некалькі гадзін. І як толькі з-за сэмафору пачулі на станцыі гудок, ганаровая варта выстраілася ўздоўж пляцформы; невялікі няпоўны вайсковы оркестр прадзьмуў трубкі сваіх інструмэнтаў, а капэльмайстар абвёў сумнымі вачыма аркестрантаў...

— Ідзе!.. прагучэла ў натоўпе.

Халодны вецер нёс з сабою з мора дробную золь. Яна няпрыкметна садзілася на адзежыну, на валасы, на твар, на зямлю,— і здавалася ня было такой мясьцінкі, куды-б ня трапіла гэтая халодная, студзёная раса.



Цягнік цяпер доўга сябе ня прымусіў чакаць. Са змроку вырваліся спачатку два агні, затым сілуэт чорнага вогненна-сталёвага волата...

У вагонах ня было агню. Шыбы адліваліся цёмнасіняй мутнай морскай гладзьдзю, і нічога нельга-б было зразумець, каб ня тыя жалобныя гукі хаўтурнага маршу, што перш ціха, ціха, а потым усё галасьней пачалі вырывацца з мядзяных труб вайсковага оркестру.

Медзь плакала і стагнала. Цягнік ціха падыходзіў да станцыі. Калі ён суняўся, дык натоўп яшчэ больш выразна адчуў, што жывы машыністы на жывым цягніку прывёз мёртвых...

Нізка схіліўся цяжкі, чырвоны палкавы штандар. Нізка схіліліся чырвоныя сьцягі з чорнымі крэпавымі істужкамі. Ніжэй апусьціліся галовы ганаровае варты.

І тады на мосьцік цягніка ступіў высокі, худы комунар—старшыня рэволюцыйнага камітэту. З хвіліну ён маўчаў. Здавалася вачыма шукаў у натоўпе тых слоў, тых выразаў, якія сёньня, ў апошні раз, ён павінен аддаць загінуўшым.

І высокі худы комунар гэтыя словы знайшоў...

— Таварышы!—пачаў ён. Перад вамі... перад вамі... мёртвы цягнік... Белая сволач пасекла нашых братоў раненых чырвонаармейцаў. Перад вамі... перад вамі... цягнік з чалавечым мясам... Геройства нашых братоў павінна быць нашым геройствам, а памяць аб іх нашаю прысягаю... Гэтыя скрываўленыя трупы чакаюць вашае помсты белым бандытам. На фронт, комунары! Заўтра ўсе, як адзін, на фронт...

Уночы выносілі халодных, скрываўленых, пасечаных людзей. Несьлі з вагонаў галовы, рукі, ногі, абцятыя тулавы...

А медзь стагнала і плакала...

## II

Нядоўга шукалі чырвонаармейцы свайго камандзіра палка Пётру Іванавіча Несьцярэнку шэрым, змрочным вечарам. Нядоўга ім прышлося хадзіць і поўзаць па прасторнай палянцы—па тэй самай палянцы, на якой сёньня з раніцы разгарэўся заўзяты, дружны бой з белымі часьцямі дзянікінскага данскога войска. Кампалка ляжаў побач з сваім моцным, прыгожым буланым таварышом у лужыне крыві. Ляжаў у бяспрытомнасьці. За пояс быў заціснуты маўзэр—не ўдалося Пётру Іванавічу выпусьціць апошні набой з свайго маўзэра. Правая рука моцна сьціскала войсковую кавалерыйскую шаблю. Знарад разарваўся ў пяці-шасьці мэтрах ад камандзіра, якраз у той час, калі ён першын кінуўся ў контратаку перад самым канцом бою. Грузна ударыўся знарад вобзем, глуха задрыжэла зямля, Пётру Іванавіча засыпала зямлёю... І далей паплыло ўсё само сабой, бяз удзелу Пётры Іванавіча, бо для яго сьвет прышоў у нябыцьцё,—памяць пакінула чырвонага камандзіра,—ён быў бяспрытомным.



Пераступаючы праз трупы забітых, несьлі чырвонаармейцы свайго заслужанага камандзіра ў палкавы шпіталь. Уся галава была насьпех апавіта белай, сьнежнай марляй толькі там, дзе павінен быў быць твар, чырвонымі плямамі прасочвалася кроў. Асколак знараду трапіў у расчынены рот кампалка, вырваў яму кавалак языка, выкрышыў зубы...



Палкавы шпіталь знаходзіўся ў трох кілёмэтрах ад перадавых рубяжоў, на невялічкай станцыі.

Бесьперапынна прыносілі ў шпіталь санітары параненых чырвонаармейцаў-кавалерыстых. Жудасныя малюнкі, жудасныя, страшныя, не чалавечыя, а жывёлінныя гукі парушалі сёньня (спакойную некалі) станцыю. Палкавы доктар з дапамогай лекароў рабіў неадкладныя опэрацыі параненым. Прамывалі яны параненыя часткі чалавечых цел, і беласьнежная горка марлі і ваты ўвесь час зьмяншалася.. Жудасна было глядзець на твар кампалка Несьцярэнкі. Вопухаль пайшла па ўсім твары. Але спакойна глядзелі яго вочы і хацелася яму ўжо цяпер спытаць—як прайшоў бой, якія вынікі іхняй контратакі на наступаючых дзянікінцаў, але дарэмна. Найменшы рух сківіцы і языка прыносіў страшэнны боль, які межаваўся з бяспрытомнасьцю. А бой усеткі чырвоныя кавалерыстыя выйгралі. Дружна, кінуўшыся ў контрактаку, яны сваім магутным націскам прымусілі белых адступаць на ранейшы рубеж, пакінуўшы на баявым вучастку каля сотні забітых і параненых...

Ня спалася гэтай ноччу ў палкавым шпіталі кампалку. З спачуваньнем глядзеў ён на сваіх суседзяў — параненых, чуў стогны, бачыў конвульсійныя сударгі перад сьмерцю... Страшна балела галава. Час-ад-часу Пётра Іванавіч хапаўся рукамі за галаву. Час-ад-часу рукою падзываў лекпома, і калі той падыходзіў, скрываўленымі пальцамі стукаў па сваёй галаве, а потым сьціскаў рукі ў кулакі і трос..

— Таварыш кампалка, хутка павінен падыйсьці да станцыі санітарны цягнік дывізіі, і мы ўсіх параненых накіруем у тыл. Толькі што атрымана тэлефонаграма аб выхадзе цягніка з бліжэйшае станцыі. — сказаў лекпом, папраўляючы павязку на назе параненага чырвонаармейца, што побач ляжаў з кампалка.

Гарэла газьнічка. Цені расплываліся па сьценах, даходзілі да столі вялікага пакою. Было відаць, як вялікая, вялікая цень забінтаванай галавы кампалка спакойна хіснулася два-тры разы. Словы лекпома кампалка зразумеў. А галава страшэнна балела. Хвілінамі Пётру Іванавіча кідала ў жар... Вырывалася з грудзей хрыпеньне, рукі прыводзіліся нэрвамі ў рух, але гэта цяпер было толькі хвілінамі. Моцны, вынослівы організм ня здаўся і цяпер...

У палкавым шпіталі чакалі прыходу санітарнага цягніка, рыхтаваліся да адгрузкі параненых.

Уночы цягнік прышоў. Пачался нагрузка. Цяжка параненыя клаліся з падлогі на насілкі, параненыя лёгка падымаліся самі і спакойна з застылымі васковымі тварамі самі ішлі ў вагоны...

Раптам сярод начной цемені пачаліся вырывацца з вінтовак, дуламі накіраваных на цягнік, агні. Што за авантура?! Кулі ніжуць наскрозь вагоны... Лушчацца шыбы... Цяжка ўздыхнуў цягнік,—загула сырэна... Усё настойлівей і настойлівей пачынала гаварыць жалезнае горла... Белыя зайшлі з тылу. Загула ноч людзкімі крыкамі, стогнамі..

Машыністы даў ход. Узварухнуўся цягнік. Зацокалі буфары.

— Няўжо едзем?

Але цягнік стаў.

У той-жа момант, як толькі машыністы ўзяўся за рэгулятар, яго пракалоў клінок белага... А праз сэкунду—у цягніку ўзарвалася граната. Станцыя і цягнік апынуліся ў руках белых. Налёт быў зроблены нечакана...

Нехта з цягніка паспрабаваў уцякаць у начную цемень. Была кінута наўздагон граната. Пётра Іванавіч пачуў нечакана:

— Секчы... Загадалі секчы...

У вагонах былі няўзброеныя пакалечаныя людзі. Усе, хто хоць крыху мог рухацца,—заварушыліся, паўзьнімаліся з лавак і рынуліся са стогнам да дзьвярэй...

Кінуўся да дзьвярэй і Пётра Іванавіч. Толькі чамусьці здарылася так, што ён апынуўся ля супроцьлеглых дзьверак, а ня там, дзе зьбіліся ў натоўп параненыя. Дзьверкі былі адчынены. Ён саскочыў на зямлю, прыціснуўся да вагона і зьнік пад вагонам...

А там лілася кроў. Азьвярэлыя белыя старанна рубалі чырвоных, бязбройных герояў. Адлятаді галовы, рукі, людзі купаліся ў крыві сваёй і са стогнам канаді... А белы дзянікінскі афіцэр заліваўся рогатам...

* * *

Доўга не маглі зьняць з-пад вагона таварыша кампалка. Моцна ўхапіўшыся рукамі за крукі пад вагонам пералажыўшы ногі на вось, Пётра Іванавіч у такім стане дачакаўся прыходу цягніка да сваіх...

Рук моцна трымалі крукі. Сінія, халодныя пальцы скруціліся ў кулакі на ўсё жыцьцё... Падкаленьмі вось перацёрла жылы...

Вось чаму стагнала і плакала медзь.

Прайшло ўжо колькі год з таго часу. Заслужаны кампалка Пётра Іванавіч Несьцярэнка—герой грамадзянскай вайны цяпер пачэсны пэнсіянэр. Зажылі, загаіліся раны. На грудзёх чырванеюць два ордэны Чырвонага сьцягу. І калі цяпер ён успамінае пра гэты апошні эпізод з часоў грамадзянскай вайны, абавязкова дадае картавячы:

— Дык вось! Тымі-ж днямі, тэй-жа золкай халоднай восеньню 1918 г., калі мае чырвонаармейцы даведаліся пра зьверствы белых (пасеклі белыя звыш 200 таварышоў), нястрымным націскам пайшлі ў атаку на полк белай пяхоты і ўсіх „сьпісалі ў расход“.




Нарыс Цім. Зарэчнага

Героем можна быць і ня зьнішчаючы багатыя нівы, не заваёўваючы новыя землі, не разбураючы буйныя гарады...

Можна і не апранацца ў рыцарскую форму, не сядаць на белага каня, не збіваць адным махам цэлыя роты праціўніка, ня кідаць на ўцёкі палкі, дывізыі, арміі... І ўсё роўна можна быць героем.

Мы хочам расказаць пра герояў зямлі. Іх вельмі шмат цяпер — за Астрашыцкім Гарадком, за Уздою, пад Бабруйскам, Жлобінам, Полацкам, за Гомелем, за Воршаю, — у колгасе „Працаўнік", у колгасе „Прамень Комуны", у колгасе „Расьсьвет-Пераможца"... Мы будзем расказваць пра герояў соцыялістычнай перабудовы вёскі.

---

**Скавінскі Г. Т.** цяпер працуе брыгадзірам па будаўніцтву і членам праўленьня колгасу „Працаўнік". Ён карыстаецца вялізарным аўторытэтам сярод колгасьнікаў.

Скавінскі—серадняк. Да 1929 году ён шукаў шляхоў і сродкаў, каб узьняць сваю гаспадарку. Шляхі аказаліся няпрыгоднымі, як саха на зарослую імхамі цаліну, а сродкі — заіржавелымі і крохкімі, як стогадовы цьвік у стогадовым склепе.

Скавінскі знаходзіўся паміж полымем і агнём: жаданьні і магчымасьці—на двух канцавосьсях, і канцавосьсі—не паўднёвая і паўночная, а поўная супроцьлегласьць: ня злучыць, не аб'яднаць,—або там, або тут, або нідзе—серадняк.

Паіржавелі старыя шляхі і сродкі—знайшліся новыя. Скавінскі першы на вёсцы пачуяў набліжэньне іх—(быў у Чырвонай арміі, а Чырвоная армія—школа, унівэрсытэт для Скавінскіх); кінуў старыя, збуцьвелыя ажухлыя сродкі, стаў на новыя шляхі—шляхі соцыялістычнай рэконструкцыі мільёнаў дробных сялянскіх гаспадарак.

У 1929 годзе Скавінскі ў сваей вёсцы організаваў колгас. Уступіла ў колгас сем гаспадароў. Праз некаторы час увайшло яшчэ некалькі гаспадарак. У канцы году колгас налічваў 55 гаспадарак. За гэта—за рост, за работу, за колектывізацыю—кулакі зазвалі Скавінскага, зьбілі яго, адпомсьцілі. Кулакі атрымалі пакараньне. Колгас вырас і ўмацаваўся. Скавінскі, як і раней, працуе брыгадзірам па будаўніцтву, членам праўленьня колгасу.

Шлях знойдзен, і з гэтага шляху Скавінскі ня зыйдзе.

---

**Маеўскі А. С.**—кандыдат КП(б)Б. Быў батраком два гады. Працаваў на броварным заводзе ў Менску 12 год. Быў рамонтным рабочым на чыгунцы адзін год. Працаваў на папяровай фабрыцы ў Амэрыцы тры гады. Быў некалькі год на фронце, на фронце-ж і паранілі ў 1917 годзе, з таго часу працуе на гаспадарцы. У 1928 годзе ў вёсцы організаваў машыннае таварыства, а потым колгас. Увесну 1930 году колгас вырас да 30 гаспадарак і 20 адзіночак, з якіх 17 батракоў. Маеўскі працуе старшынёй колгасу. Вось і ўся біографія.

Зямельная плошча колгасу імя Будзёнага налічвае 500 *га*. Плян веснавой сяўбы выкананы ў тэрмін з пашырэньнем пасеўнай плошчы на 12 процантаў. Разгорнута будаўніцтва на ўласныя сродкі колгасу. Пабудаваны паравы млын, рухавік якога выкарыстоўваецца для малацьбы ды іншых работ. Будуецца дом для колгасьнікаў. Будуецца ўзорны сьвінарнік. Організавана сталоўка, якая абслугоўвае большасьць колгасьнікаў. Організаваны: ячэйкі МОПР'у, ТДА Авіяхіму, фізкультурны гурток, дзіцячыя ясьлі. Гэта хроніка колгасу.

У катаржнай працы, у клясавай барацьбе рос і загартоўваўся Маеўскі. Жорсткая і суровая была школа жыцьця. Басаногім хлапчуком пасьвіў чужую жывёлу на чужым полі—за лусту хлеба, за прытулак пад павецьцю, галадаў, халадаў, у рызьзі, з пугаю ў руках, басаногі. Сіверка, вецер, непагадзь, імгла, завіруха, сонца ў сьпякотныя дні. Сонца і непагадзь упякліся хлапчуку, атабралі жарты і сьмех. На кароў нападаў зык, авечкі кідаліся ў жыта, сьвіньні пішчэлі, вішчэлі і — па-сьвінячаму—застравалі ў балотах; у сіверцы, вятрох, непагадзьдзі, імгле, завірухах гадаваўся хлапчук, пастух Маеўскі, будучы бальшавік.

Дванаццаць год на бровары ляглі на плечы калодаю—гнілой засінавай, сьпірытусавай; трухлая калода гняла плечы, прыціскала да зямлі—плечы ледзь-ледзь падаліся ўніз, на ілбу вызначыліся рыскі. Дванаццаць год на бровары—дванаццаць год у пекле, у чадзе, смуродзе, у сьпірытусе,—каб пасьля ўцячы ў Амэрыку, у краіну шпаркагонкасьці і даляраў, паступіць на папяровую фабрыку, аддаць на конвэер эксплёатацыі здароўе і сілу, — і зноў уцячы на радзіму—у рэволюцыю, у завіруху паўстаньняў, блёкад, каб быць старшынёй колгасу імя Будзёнага...

Гэта толькі рыскі з біографіі бальшавіка.

---

**Філінаў П. А.**—старшыня колгасу „Расьсьвет-Пераможца". Філінаў працаваў чатыры гады батраком у пана і чатыры гады на лесараспрацоўках. У 1915 годзе быў мобілізаваны на фронт, каб атрымаць там узнагароду—інваліднасьць левай рукі. З 1918 года да 1920 года быў старшынёю Шапілаўскага сельсавету, актыўна вёў барацьбу з кулацтвам і бандытызмам. У дваццатым годзе па ініцыятыве Філінава з былых панскіх батракоў організавалася група актывістых, якая на панскай зямлі стварыла колгас „Колас".

У 1924 годзе па ініцыятыве актыву ў колгасе была праведзена чыстка ад антыколгаснага элемэнту, якія не хацелі абагульваць ні жывёлы, ні інвэнтару. Пасьля чысткі колгас быў перайменаваны ў „Расьсьвет"—у адзнаку суровых расьсьветаў рэволюцыі, і Філінаў быў абраны старшынёю колгасу. Старшынёй працаваў да 1925 году. З 1925 году абіраўся штогод членам праўленьня. У 1930 годзе Філінава зноў абралі старшынёй колгасу.

Да „Расьсьвета" далучыліся тры колгасы—„Раніца Комуны", „Зямляроб", „Пераможца". Колгас зноў атрымаў новую назву „Расьсьвет-Пераможца". Цяпер у колгасе налічваецца 167 гаспадарак з 1250 *га* зямлі, з якой 805 пахаці, 180 *га* сенажаці, 60 *га* сядзібы, 22 *га* саду і 183 *га* іншай зямлі—балот, хмызьнякоў, аблог.

Колгас сёлета засеяў 423 *га* яравога кліну, з іх 137 *га* аўсу, 125 *га* бульбы, 62 *га* вікі, 20 *га* гародных расьлін ды інш. Веснавая сяўба скончана раней вызначанага тэрміну. Сяўба праходзіла ў парадку соцыялістычнага спаборніцтва і ударніцтва.

У колгасе зараз маецца 338 абагуленых кароў і 157 штук маладняку. Сёлета ў колгас улілося больш паўсотні бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, якія поўнасьцю абагулілі жывёлу і сродкі вытворчасьці.

Сёлета ў колгасе будуецца сілосная вежа, гумно на 80 м. даўжыні, дзьве аборы. Хутка скончыцца пабудова клюбу. Зараз у колгасе працуе кіно, сталоўка і дзіцячыя ясьлі. У колгасе маецца масласыразавод, крухмальны завод, сьлясарна-кавальская майстэрня, два трактары ды інш. сельска-гаспадарчыя машыны.

Па сваей ініцыятыве і на ўласныя сродкі колгас асушыў сорак гектараў балота.

Пры колгасе ёсьць парт'ячэйка (Філінаў сябра партыі з 1927 г.), актыўна працуе комсамольская ячэйка.

За дзесяць год працы колгасьнікі „Расьсьвет-Пераможца" і яго актыў, у першых шэрагах якога заўсёды быў т. Філінаў, вялі актыўную і непрымірымую барацьбу з кулацтвам і варожымі элемэнтамі. За дзесяць год колгас два разы гарэў ад кулацкага падпалу. Тав. Філінаў, як старшыня колгасу, сваей работай забясьпечыў пасьпяховае выкананьне пляну веснавой кампаніі і усіх задач, якія стаяць парад колгасам. Тав. Філінаў сапраўдны барацьбіт на фронце колгаснага будаўніцтва.

---

**Карпенка А. Р.**—намесьнік старшыні колгасу імя Энгельса Уваравіцкага раёну. Бацька Карпенкі дваццаць пяць год працаваў на чыгунцы асэнізатарам. Сам Карпенка таксама працаваў на чыгунцы, таксама асэнізатарам. Да чыгункі служыў у пана,—пасьвіў кароў, авечак, сьвіней, вадзіў на начлег панскіх стаеньнікаў. Сын Карпенкі таксама працаваў-бы, напэўна на чыгунцы, таксама асэнізатарам—на дзелавым месцы, з баць

кавымі сродкамі вытворчасьці, але гэтага ня здарылася: рэвалюцыя паставіла Карпенку на чале соцыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы, і сын яго, бязумоўна, пойдзе па бацькаўскаму шляху.

Пачалася вайна, і Карпенку замест асэнізатарскіх прыладаў далі ў рукі вінтоўку. Тысячы Карпенак кінулі на фронт, у акопы, дзе вільгаць, сьцюдзёнасьць, вошы і сьмерць,— у пушчы лясоў, у трасяніну балот. Карпенкі гінулі „за веру“ памiралі „за цара“, без галоў заставаліся „за радзіму“. „За веру, цара и отечество“— за фальш, буржуазію і капіталізм— гінулі, паміралі, заставаліся бяз рук, бяз ног, без галоў мільёны Карпенак, такіх-жа, як Карпенка, асэнізатараў, дворнікаў, лесарубаў, цесьляроў, мэталёўцаў, хлебаробаў—з Украіны, Беларусі, Сібіру. Па касьцёх мільёнаў Карпенак разгульвала сьмерць, на касьцёх Карпенак будавалі крывавае шчасьце Раманавы, Марозавы, Юзы.

У часе рэволюцыі, у завірухах перад дваццатых год Карпенка быў на Беларусі. На Беларусь насоўвалася тады нямецкая акупацыя. Немцы пасадзілі Карпенку на год у астрог. У астрозе прасядзеў тры месяцы. Пасьля вызваленьня Беларусі ад акупацыі паступіў у Чырвоную армію, у аўтаартад.

Аўтаатрад кідаўся—па балотах, лясох, крутаярах—з аднаго фронту на другі. У бездарожжы і пушчах атрад губляў людзей, шлях усьцілаў перамогамі і трупамі, цярпеў паражэньні. Аўтаатрад адстрэліваўся ад бандытаў—зялёных, сініх, белых, наступаў на орды польскага „Белага Ожэлу“, праганяў з паўстаўшай краіны агентаў імпэрыялізму. Аўтаатрад вышаў пераможцам у 1921 годзе, як і ўся Чырвоная армія, як і ўсе рабочыя і сяляне рэспублікі. І ў гэтым-жа годзе дэмобілізаваўся Карпенка. Але гэта была ўмоўная дэмобілізацыя: у вёсцы для Карпенкі адчыніўся новы фронт—фронт соцыялістычнага будаўніцтва. Карпенка організаваў комуну імя Карла Маркса. У комуне працаваў старшынёю больш шасьці год.

У 1929 годзе Райком КП(б)Б перакінуў Карпенка ў вёску Радзеева, дзе тры гаспадары жадалі організаваць колгас. Карпенка ў гэтай вёсцы шырока разгарнуў політычна-масавую работу. Калі прышоў час асеньняй сяўбы, у колгасе замест трох гаспадароў было дваццаць. Да дню сьвяткаваньня XII гадавіны Кастрычніка колгас налічваў 60 гаспадарак. Цяпер у колгасе знаходзіцца 240 гаспадарак. У гэтых невялічкіх лічбах—наш рост, нашы перамогі. У гэтых-жа лічбах—Карпенка, з галавою ўвайшоўшы ў соцыялістычнае будаўніцтва.

* * *

Мы расказалі пра герояў соцыялістычнай перабудовы вёскі. Кароткія іхныя біографіі—біографіі соцен герояў колектывізацыі. Пра іх трэба пісаць ня памяткі, а кнігі.

Скавінскі, Маеўскі, Філіянаў, Карпенка і Іванюкевіч нагароджаны ордэнам імя Леніна. Апрача іх у Беларусі нагароджаны ордэнам імя Леніна яшчэ шэсьць колгасьнікаў—Пушманскі С., Фядотаў П., Сахно М., Высоцкі В., Юр'іна Т., Аўсеяў П.

... Герой буржуазіі едзе ў Афрыку, у Аўстралію, страляе ў тыграў, ільвоў, нэграў. Герой буржуазіі сьнедае ў Бэрліне, палудную ў Парыжы, вячэрае ў Лёндане,— а ноччу на „цэпэліне“ ляціць у Індыю, каб уціхамірваць „дзікія пляменьні“, зблізаць іх—пры дапамозе газаў і кулямётаў—з культурай мудрага Захаду. Герой буржуазіі—машына сьмерці, і будучыня яго— сьмерць.

Наш герой—барацьбіт на франтох грамадзянскае вайны, барацьбіт на баявых вучастках будаўніцтва соцыялізму. Наш герой організоўвае соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, кіруе масамі—ён сам адзінка масы,—выкарчоўвае рэшткі старога, будуе новае ў гісторыі чалавецтва. Перад нашым героем— будучыня, ён сам будаўнік свае будучыні.

---



Тав. Гей сярод рабочых-ударнікаў.

# ПРЫШЛА ТРЫНАЦЦАТАЯ ВОСЕНЬ



Над полем
дождж асеньні росіць,
а пад палотнішчы сьцягоў
прышла
трынаццатая восень,
каб стаць
у шэрагі байцоў...
Яна прышла
ў красе барвовай,—
як сьвет старой
і заўжды новай,
і ў золата
убрала край,
і ўскаласіла ураджай.
Мы ёй прыносім
скарбы думак,
мы аддзем ёй
цьвёрдасьць рук,
мы з ёй
падлічваем падсумак
вялікіх ДВУХ...



Дабрыдзень,
восеньскае поле,
бяз меж,
аблогаў
і куколяў...
Дабрыдзень,
фабрык карпусы,
вам, неўгамонныя пасы!

Мы спалім
даўняга атрускі,
за новы
прымемся пасеў,
і над далінай беларускай
мільёны гмахаў узнясем.
Ня першы раз
ісьці праз буры,
на Перакопе,
на Амуры,
ў глухіх стапох,
сярод тайгі —
ня мала кінута магіл.





## ТОК!

Ужо чутна музыка турбін. Мы ўжо захапляемся песьнямі Асінэльстану. Тое, што дагэтуль марамі было— зрабілася сапраўднасьцю.

Перамог колектыў. Перамагла магутная колектыўная сіла наступаючай пролетарскай штурмуючай кагорты.

Адступіла спрадвечная багна, тысячагодныя балоты і лясы. Адступіла старая шэрая вёска са сваёй цемрай, забабонамі і балотнымі жахамі.

У ціхае Арахоўскае возера, нібы ў люстэрку ўглядаецца высокі гмах электрастанцыі. Нарадзілася Асінаўская электрычная станцыя імя Сталіна.

Пераварот. Поўны пераварот у галовах сотняў тысяч людзей, якія дагэтуль жылі байкамі пра цудоўныя сілы, якія горш сьмерці цураліся гэтага балота. Прышоў новы лад і сказаў: паставім балота на службу вызваленаму чалавеку.

— Гэтае балота, якое дагэтуль засмоктвала сялянскіх дзяцей сялян, коняй з фурманкамі, кароў,—гэтае балота дапаможа нам выраблядь плугі, тканіну, абутак, панчохі, адзеньне, збожжа, масла, сыр.

Ды і ня толькі сказаў,
— Ужо гудуць правад
гілеў, Віцебск, у вакольн
ліся правады Асінэльста
сотні варштатаў фабрык
Каб ня было Асінэльст
сьціць у ход магілеўскук
— мы-б не маглі пусы
ку, на якой будзе праца
— мы-б не маглі пусы
Воршы;
— мы-б не мелі току
абсталяваных заводах Ві
А цяпер:
— дайце ток!
— ёсьць ток!—гучыць
Ён сваімі турбінамі
круцяцца варштаты завод
Магілева, Шклова, Копы
Першая чарга сілы
Але гэта мала. Надзвыч
Соцыялістычнай Беларус
робіцца краем фабрык і



Ды і ня толькі ...але і зрабіў.
— Ужо гудуць ... Асінэльстану. На Воршу, Магілеў, Віцебск, ...ія саўгасы і колгасы пацягнуліся правады ...ў. Токам турбін ужо жывяцца сотні варштатаў ... заводаў Савецкай Беларусі.
Каб ня было ...ну, мы-б сёлета не маглі пусьціць у ход ... фабрыку штучнага шоўку;
— мы-б не маглі ...ць віцебскую швэйную фабрыку, на якой будзе ...ць пяць тысяч рабочых.
— мы-б не маглі ...ць у ход ільняны комбінат у Воршы;
— мы-б не ...для сотняў варштатаў на новаабсталяваных ...бшчыны.
А цяпер:
— далей ...
— ёсьць ток ...олас Асінэльстану.
Ён сваімі турбі...ьць такую сілу, ад якой зарушацца варштаты ...ў Воршы, Віцебску, Дуброўны, Магілева, Шклова, ... Барані.
Першая чарга ...сінэльстану — 10 тыс. кілёват.
Але гэта мала. ...на мала для буйна-квітнеючай Соцыялістычнай Б... для Савецкай Беларусі, якая робіцца краем фа...ашын.

Як сьмешна ўспомніць, што ўсяго толькі тры гады таму назад дзесяткі камісій доўгімі вечарамі спрачаліся аб тым, ці будзе каму спажываць энэргію турбіны, якая дасьць 10 тыс. кілёват. Опортуністыя ня верылі, што балотная Беларусь абрасьце фабрыкамі і заводамі, узбагаціцца саўгасамі і колгасамі, якія выцесьняць саху і будуць спажываць электрычную энэргію.

Ня верылася ім. А зараз, колькі спрэчак аб тым, каму ў першую чаргу даць энэргію. Не хапае. Ды, ня мала. Не стае дзесяткі тысяч кілёват.

Беларусь індустрыялізуецца. Ёй патрэбна электрычная энэргія. Мы атрымаем гэтую энэргію на новых электрычных станцыях, якія будуюцца пад Гомлем, у Прапойску. Асінэльстан загартаваў багатыя кадры будаўнікоў—энтузіястых. Работнікі Асінэльстану паказалі, што значыць бальшавіцкія тэмпы, што значыць па-бальшавіцку працаваць. Яны гэты вопыт панясуць у Гомель, у Прапойск на новыя станцыі, туды, дзе разгорнуцца новыя баі за электрычную сілу для новай індустрыялізаванай соцыялістычнай Беларусі, якая пад сьцягам Леніна, пад сьцягам комуны змагаецца за лепшую будучыню, за новае жыцьцё.

## ВЕРШ В. МАРАКОВА і Ю. ТАЎБІНА



І так,
праз дні вайсковых стычак,
І годы
мірных заваёў—
прышоў
Трынаццаты Кастрычнік
і стаў
у шэрагі байцоў.
І вось,
пад шолах лістапада
мы бачым—
новых даляглядаў
гараць жывыя маякі
і клічуць зноў
на шлях цяжкі.
Цягліцы нашы
стальлю стануць
і вораг нам
ня будзе ў страх--
артэрыямі Асінстану
мы апляцем
палёў размах.



Па усіх куткох,
па ўсёй краіне
адзіны ток
крывёю льне—
ад сэрца палкага
дынам—
у маладое сэрца
нам.
... Хай дождж
над полем
холад носіць—
яна, чароўная,—
прышла,
прышла
Трынадцатая восень
з вачыма,
поўнымі сьвятла.
Яна прышла
ў красе барвовай—
як сьвет старой
і заўжды новай
і ў золата
убрала край,
і ўскаласіла ураджай.



# САПРАЎДНАСЬЦЬ, ФАКТ

Нарыс
В. СТАШЭЎСКАГА
(Абразкі Асінбуду).

*„Урад БССР, вывучаючы пэр.пэктывы народнае гаспадаркі рэспублікі і вышукваючы шляхі да яе разьвіцьця і індустрыялізацыі БССР, прызнаў неабходным у першую чаргу паставіць раённую электрастанцыю ў цэнтры раёну Віцебск—Ворша—Шклоў—Магілеў, за 25 вёрст ад г. Воршы, на Асінаўскім тарфяным масыве, і распачаць падрыхтоўчую работу для пабудовы гэтае раённае электрастанцыі ўжо ў 1926-27 г.“*

Савет працы і абароны СССР 6 мая 1927 г. выносіць пастанову: „Постройку Оршанской районной станции утвердить“. І вось такое „парушэньне“ аўтономнасьці БССР азначае, што беларуская раённая станцыя заносіцца ў сетку ўсесаюзнае электрыфікацыі і што Беларусь, як частка гэтага Саюзу, будзе мець братэрскую дапамогу.

Будаўніцтва пачынаем.

---

У былым заводзе ў Выдрыцы шуміць бур'ян. Дзікаю травою ўсё тут зарасло, кусты ўзьняліся ростам вышэй чалавека. На пасеках даволі рослы лес. Зямля ўзгадавала маладую зьмену. Зарасьлі і чыг начныя рэйкі. Разбурана дарога.

Давай чыгунку, дарогу!

Дарожнікі, чыгуначнікі, на лінію!

Сем кілёмэтраў паправіць, на тры пралажыць новую лінію!

Каля дзесятку год ня чула Выдрыца цягніковага гудка. Толькі ўначы з частых бывала закугаке сава, або ў піліпаўку, амаль ля самае трубы заводу, ваўчыца песьню завядзе. У лясной глушы звычайныя мэлёдыі. А што тырчыць тут высачэзная труба, дык яна ніколі ня пужае. Яна-ж маўчыць, а совы і зьвяры, здаецца, любяць цішыню. Толькі птушкі весела шчабечуць на кустох, што ўзьняліся паміж рэек.

Расчысьціць шлях!

Каб заблішчэлі, загаманілі рэйкі.

Прышлі будаўнікі, а май і чэрвень паглядаюць з лесу маладою радаснай усьмешкай. Скора, скора загудзе цягнік і такім празрыстым, звонкім рэхам па-вясеньняму рассыпле свае гукі.

— А ну, хлопцы, падкладай новую шпалу, заганяй кастыль!

Закладай болт!

Зашрубоўвай мутэрку!

Давайце сьвежага пяску!

Новая істужка працягнена ад чыгункі МББ на 7 кілёмэтраў.

11 ліпеня Савецкая Беларусь сьвяткуе дзень вызваленьня Беларусі ад белапалякаў. Цяпер у нас кожны год жыцьця вольнай працы на зямлі, дзе ў дваццатым годзе гойсалі уланы белай Польшчы, адзначаецца ўсё новай перамогай творчай працы над ліхою спадчынай, што нам пакінулі паны. Адзначаецца вялікім дасягненьнем соцыялістычнае перабудовы краю.

11 ліпеня 1927 году па адноўленым шляху ўпяршыню прыйшоў у пасёлак Выдрыцу цягнік.

Уздымаюцца тэлеграфныя слупы. Зазваніў тэлефон. Часовая электрастанцыя асьвятліла ўвесь пасёлак, дала электра-сілу для распачатага будаўніцтва. Кожны дзень прыбывалі людзі. Старыя будынкі стаялі бяз стрэх. Мясьцінамі нацягвалі брэзэнты. Далей, з падвозам матэрыялаў, зьявіліся бляшаныя стрэхі.

Усё гэта ўзбудзіла мясцовасьць з яе жыхарствам. Тут умацоўваецца позыцыя для



Ён ведае, на што і куды ідзе яго энэргія. Яму вядома, што ён рабочы, ён-жа і гаспадар і ўладар свае працы. Тут рабочыя з розных куткоў Савецкага Саюзу, розных нацыянальнасьцяй. Рабочы камітэт яднае людзей розных профэсій і спэцыяльнасьцяй.

Усе гэтыя людзі ўтвараюць адзіныя грамадзкія організацыі—МОПР, Авіяхім і іншыя. Яны маюць свой клюб, радыёўстаноўкі, газэты, часопісі, бібліотэку. Знаходзячыся воддаль гарадзкіх цэнтраў, яны не адарваны ад гэтых цэнтраў. Іх пульс жыцьця б'ецца ва унісон з пульсам усяго пролетарыяту соцыялістычнае будовы. На гэтай пабудове мы бачым не нявольніка працы, а свабоднага творцу.

---

На Асінаўскім балоце ідзе пляніроўка гораду. Ён захоплівае вёску Арахі. Праз яе пракладваюцца чыгуначныя шляхі, па якіх павінны ісьці харчы станцыі—торф.



Хочаш-ня-хочаш, а „сыходзь, вёска, з яснай явы" (з вершу Я. Купалы). Дайшло да агародзікаў, да хатак, печы. Вось тут і выявілася ўся трухлявасьць гэтай вёскі.

Загаманіла яна, толькі не адзіным голасам, а рознымі. Адны пра перасяленьне ў Крым, другія пра організацыю колектыву, трэція пра тое, каб заставацца на месцы. Няхай, значыць, Асінбуд адсоўваецца крыху далей ад вёскі. Што ім, гэтым апошнім, да таго, што заводы Беларусі крычаць:

„Дайце электрасілу!".

Ім свая печка і малюсенькія з лучынкамі вокны засланяюць Асінбуды. І гэта ў такі момант, калі авангард пролетарыяту—яго партыя ўкладвае сваю энэргію, свае мазгі, рабочыя—свае мускулы, нэрвы,—вёска ў яе некаторай частцы трымаецца за старую печ.

Вось гэта яшчэ раз яскрава паказвае, што такую вёску трэба хутчэй разбураць. Сапраўды, здаецца, невялікая вёска Арахі, а клопату з ёю Асінбуду было даволі. Тым, хто ўвайшоў у колгас, зямля была прадастаўлена тут-жа, непадалёку; за перанос будынкаў, за ўгноеныя гоні заплочаны вялікія грошы. Атрымаўшы грошы, частка сялян прадала старыя хаты Асінбуду таксама за добрыя грошы.

Вядома, што Савецкая ўлада бедняка і серадняка ня дасьць у крыўду, яна ім памагае. Але-ж нельга гладзіць па галоўцы таго, які, пранюхаўшы, дзе будзе праходзіць лінія перадачы току, стараецца паставіць зруб якое вараўенькі, каб яму сплацілі добрыя грошы за зноску.

Дзе-ж тут у такога селяніна грамадзкае пачуцьцё? Гэта-ж пасутнасьці кулацкая работка. У рабочых колектывах такія зьявы кваліфікуюцца, як рвацтва, шкодніцтва. А калі сёньня з такімі зьявамі вёскі абыходзімся мякка, дык мы ўлічваем усе страшэнна цяжкія ўмовы, у якіх выхоўваўся бядняк і блізкі да яго серадняк.

*Колгасы: імя Леніна, „Чырвоны Прамень" і іншыя, якія вырасьлі вакол Асінбуду, пад гукі цягніковага гудка, пад звон сталі, пры жорсткай барацьбе з кулацтвам, пры электрычнай лямпе Ільліча—вось, што прышло на месца старой вескі Арахі. Вось тыя лябараторыі, з якіх павінен выйсьці новы селянін з грамадзкім колектыўным пачуцьцём рабочай клясы, з поўным уясьненьнем свае ролі ў соцыялістычным будаўніцтве, у перабудове сьвету.*

---

Галоўны корпус станцыі—пры возеры, а да яго спускаецца града, як-бы шырокі земляны вал. Гэта вышэйшае месца выбрана для рабочага пасёлку. Чатыры трохпавярховых вялічэзных муры выстраіліся ў шарэнгу ўздоўж гасьцінца. За імі пяць будынкаў другое чаргі, а побач два котэджы. На сёняшні дзень усе будынкі гатовы. Паравое ацяпленьне, вадаправод, электрыка. Тут прасторна і сьветла.

Вось у якіх умовах павінен жыць будаўнік соцыялізму, рабочы, інжынэр, селянін.

Абапал гэтага пасёлку распасьцёр сваю цудоўную кайму малады лес. Яму хочацца дагнаць рост будынкаў, але гэтага зрабіць яму ня хопіць сілы. Ён на нізіне, і пры самым найвышэйшым сваім росьце ён усё-такі будзе дыванам, які нібы знарок разасланы перад ганкам дому. Жыхары гэтых будынкаў будуць любавацца купчастымі верхавінамі рознакаляровых дрэў.

А верасень усё-такі—мастак. І сёлета ён асабліва пастараўся:
пазалаціў ён лісьце маладых бяроз,
пачырванеў асіну, вербалозу,
згусьціў зялёны колер на сасьне, яліне,
і на будовы строгіх ліній,
на горды Асінбудаў мур
— ён разаслаў вячэрні сонечны пурпур. (Дзе вы, Ромбаўцы? аў! [1])

---

Пераклікаюцца гудкі Энэргабуду, торфзаводу, электрастанцыі ў Выдрыцы, цягніка, дрэзіны. Гуляюць яны бурным рэхам па лясных прасторах, рэчках, возеры, рэжуць цішыню лясоў, балот і ўдзень і ўначы.

Няпрывычная музыка для лясных жыхароў. Кажуць, што аднаго разу самы старшы з іх—мядзьведзь такі рашыў пацікавіцца. Падышоў да чыгункі, што ідзе на торфараспрацоўкі, прылажыў вуха да рэек і слухае, а тут ліхтары аўтодрэзіны і секанулі бляскам па вачох, гукнула сырэна—адступіўся ў бок, даў дарогу.

Вось яна, жывая казка.

У казках чалавек даўно шукае скарбаў на балоце. Ускочыць спрасонку, ухопіць рыдзёлачку і пашоў. Капане, а там убачыць чорта лысага. Скарб на балоце ёсьць, толькі шукаць яго трэба з нівелірам.

Вось так узброены чалавек вышаў на балота і знайшоў скарб.

---

На сорак шэсьць кілёмэтраў на балоце цяпер ужо пралажана вузкая чыгунка. Спэцыяльныя торфа-паязды шэрымі істужкамі разьбягаюцца па розных напрамках.

Машыны рэжуць „балота" на мільёны кавалачкаў, далей раскладаюць на балоце і, калі падсохнуць, складаюцца ў вялікія сьцірты-штабелі.

Сёлета працавала дзесяць машын. На наступнае лета мяркуецца пусьціць яшчэ дванаццаць фрэзэрных машын. Скардзяцца кіраўнікі, што дрэнна было з рабочаю сілай—яе не хапала на 70 проц.

Зараз ствараюцца найлепшыя ўмовы для працы тарфянікоў. На абшарах балота ў розных мясцох будуецца дванаццаць рабочых пасёлкаў. Шэсьць ужо скончаны. Цяпер цэнтральным пасёлкам зьяўляецца пасёлак № 2. Абапал доўгае вуліцы размясьціліся: кантора, рабачком, школа, пошта, больніца, клюб з радыёўстаноўкай, хлебапякарня, дзьве сталоўкі, пажарнае дэпо з вышкаю і званком, майстэрні, гараж аўтодрэзіны і цэлы рад кватэрных будынкаў для сэзоньнікаў.

Вось што ўяўляе з сябе рабочы пасёлак на Асінаўскім балоце. Гэта невялічкі культурны гарадок.

---

[1]) РОМБ—Рэволюцыйная організацыя мастакоў Беларусі.



І такіх пасёлкаў будзе дванаццаць, адзін з якіх будзе размешчаны на востраве, дзе цяпер некалькі хутароў пад назваю „востраў", і гэты пасёлак будзе зьяўляцца цэнтральным.

Тут будуць пабудаваны вялікія цагляныя будынкі, тут будзе зьмяшчацца галоўнае кіраўніцтва торфараспрацовак, торфзаводу. А завод не маленькі. У летнюю пару тут будзе працаваць каля 3000 сэзоньнікаў. Гэта вельмі цікавае і своеасаблівае прадпрыемства. Цяпер яно выдзелена ў асобную адзінку і перайшло пад кіраўніцтва Белторфу.

Трудна ўявіць усю веліч разгорнутае работы, не пабываўшы, не пагляд зсўшы. У Беларусі нараджаецца новая сям'я гарнякоў, разгортваюцца капальні чорнага золата. На паўтары мэтры глыбіні здымаецца пласт зямлі на плошчы тысяч гектараў. Застанецца добрая зямля, якая пойдзе для пашырэньня сельскай гаспадаркі.

Беларусь балотная ператвараецца ў квітнеючыя палеткі новай. колектыўнай, соцыялістычнай вёскі.

Патомкі нашы, а можа яшчэ і мы запішам у гісторыю— быў 13-ты год або, як даўней лічылі, 1930. Была ў нас першая пяцігодка. Партыя пролетарыяту паклікала выканаць яе ў чатыры гады. І ўзьняўся тады творчы ўздым:

Ударнікі, наперад!
Вайна гультайству і нядбайству!
Сьмерць шкоднікам!
Што?
Опортуністы наставілі рогі?
Прэч з дарогі!
Мацней удары молата!
Уздымайся край
магутным волатам!
І ў цемені балота заблішчэлі зоркі.

А было яно вялікае балота, векавечная вада стаяла тут, ні сьцежак, ні дарог, а вячэрнюю парою расьцілаўся вэлюмам туман.

Была ня лёгкая пара, часамі не хапала тэхнікі, навукі, былі няхваткі і з харчамі, але будаўнікі загартавалі свае мускулы мацнейшым гартам Ленінскае партыі,

і задымілі трубы новых фабрык,
электрычных станцый,
узьнялі балота,
і на месцы дзікае травы—
ўзрасьцілі буйнае калосьсе жыта.

Як бачыце,—пабудавалі мураваныя дамы і насадзілі сад.

І слухаць будуць дзеці гэтую гісторыю і скажуць: слава вам, бацькі, браты і сёстры!

---

Расчыніліся дзьверы гаражу, і ліхтары аўтодрэзіны ўрэзаліся ў цемень верасеньскага вечара. Група партыйцаў едзе на Асінбуд на партсход. Роўненькай палоскаю сьцелюцца пасмы ліхтароў. З боку паглядзець, дык быццам бяжыць у цемені адзін агонь. Калі вы едзеце на аўтодрэзіне, вы нібы пералятаеце нейкае бяздоньне і здаецца, што вось гэтая чыгунная істужка, гэты бляск ліхтароў — адзіны шлях, па якім вы можаце імчацца. Вы сваім тварам расьсякаеце паветра, па галаву тужэй нацягваеце шапку і моўчкі слухаеце рэек гул і яго водгалас у балотных пералесках.

Дрэзіна павярнула па галоўную дарогу. Вы бачыце ў розных мясьцінах яскравыя агні.

Вы бачыце ў адвечнай цемені асінаўскіх балот агні.

Электрычнасьцю асьветлена балота.

А дрэзіна, нібы той „ковер-самолет", імчыць вас далей. І ўздымаецца пад дрэвамі высока-маладая думка птушкай-сокалам.

Вось вам і казка.

Фантазія чалавека стварыла казку. А творчая „фантазія" пролетарыяту вольнае краіны з некаторых казак робіць быль.



Соцыялізм у нашым краі для некаторых—казка.

А Асінбуд з электрыкаю на балоце заяўляе:

Ня казка гэта і ня сон. Соцыялізм у СССР—сапраўднасьць, факт!



# Культура БАЛОТ



Яўген Жук. *(Нарыс)* Фото Ўл. Семянякі.

За паўтара кілёмэтры ад тэрыторыі Першай усебеларускай выстаўкі знаходзіцца Менская балотная станцыя. Пачатак існаваньня яе адносіцца да 19 2 году. Царскі ўрад, адсутнасьць сродкаў для правядзеньня дасьледчай работы, пазьней грамадзянская вайна, нямецкая і белапольская окупацыі не давалі магчымасьці разьвіваць досьледы на Балотнай станцыі. Фактычна сталая работа на Станцыі пачалася ў 1922 г.

Прайшло восем год. Адвечнае дрыгвянае балота абудзілася і ператварылася ва ўраджайныя, квітнеючыя палі. Сёньня на гэтым месцы знаходзіцца сустаўная частка Ўсебеларускай выстаўкі—павільён культуры балот. Ня толькі навуковыя дасягненьні Станцыі, але і вынікі практычных досьледаў савецкай мэліорацыі—вось што паказвае сёньня гэты павільён.

* * *

2.600 тысяч *га* займаюць балоты Савецкай Беларусі. Больш паловы плошчы ўсіх ворных зямель нашай рэспублікі знаходзіцца пад яшчэ не абуджанымі прасторамі.

Балоты бываюць трох тыпаў: нізінныя, пераходныя і верхавыя, альбо мохавыя. Першы тып балот знаходзіцца ў басэйне ракі Прыпяці (Палесьсе). Гэтая частка Савецкай Беларусі мае каля 40% балот.

Нізінныя балоты зьяўляюцца найбольш карыснымі. Торф, які здабываецца на балотах гэтага тыпу, ідзе на апал і ўгнаеньне, а глеба пасьля мэліорацыі засяваецца збожжавымі культурамі. Ураджай на такім балоце высокі. Толькі пшаніца і грэчка не растуць на ім. Глеба нізіннага балота багата азоцістымі ўгнаеньнямі і мае шмат вільгаці, што як-раз ня спрыяе для ўраджайнасьці пшаніцы і грэчкі.

Расьліннасьць нізінных балот багатая. Пасьля мэліорацыі балота, гадавы прырост хваёвага лесу павялічваецца ў 5—6 разоў. Экспонаты павільёнаў яскрава гавораць аб гэтым.

Значна ніжэй стаяць балоты пераходнага тыпу. Яны маюць больш моху. Ураджайнасьць травастою бывае ад 20 да 50 пуд. з гектару. Расьліннасьць шмат чым адрозьніваецца ад першага тыпу. Стаяць на балоце бярозк, ды хвойкі, на выгляд маладыя але яны—каржакі, вышынёя да 3 мэтраў, ім па 25—30 год.

Нарэшце, ідуць балоты мохавыя. Гэта самы горшы тып. Уся глеба складаецца з моху сфагнуму, і багун ды ягаднікі—вось расьліннасьць гэтых балот. Дзе-ні-дзе прабіваецца сака, ды часамі сустракаецца расіца круглалістая. Мохавыя балоты найбольш пашыраны ў басэйне ракі Бярэзіны.

Карты, дыяграмы, рысункі мэліорацыі балотных масываў, віды дрэнажу на глыбокіх і мелкіх балотах, модэль зямлячарпалкі на Мар'іне, прылады мэліорацыі ды дзесяткі іншых экспонатаў паказвае пакой мэліорацыі.

На сьцяне зіхацяць літары лёзунгу: „Мацней бярэцеся за культуру балот". Гэты лёзунг нездарма вісіць тут. Ня толькі прыгожыя словы лёзунгу заклікаюць рабочых ды працоўнае сялянства Савецкай Беларусі пад кіраўніцтвам ленінскай партыі весьці барацьбу за ператварэньне балотных масываў ва ураджайныя нівы. Жыцьцёвая практыка агітуе за мэліорацыю.

* * *

Менская балотная станцыя займае плошчу ў 300 *га*. Палову яе складаюць мэліораваныя балоты, а рэшту—мінэральная глеба.



**Канаплі на балоце каля Менску.**



**Гарбуз і капуста, выгадаваныя на асушаным балоце ў Менску.**

Высокіх ураджаяў станцыя дамагалася шляхам мэханізацыі, угнаеньня, правільнага севазвароту ды ўжываньня высокаўраджайных гатункаў насеньня.

Ураджайнасьць зерневых культур на станцыі надзвычайна высокая. Гектар азімага жыта дае 28 *цнт.* Найбольшы ўраджай аўсу 36 *цнт*, і ячменю 26 *цнт* з *га.*

Як паказваюць досьледы Станцыі, для умоў нашай краіны самы найлепшы час засеву збожжавых культур на балотных глебах ад 20 жніўня да 10 верасьня.

Спрыяючыя ўмовы на асушаных балотах для разьвіцьця гародніцтва. На балотнай глебе гатунак капусты „Кашыркі" даў з *га* 557 *цнт* у той час, калі на мінэральнай глебе ўраджай гэтай капусты—258 *цнт.*

Ня менш значныя посьпехі дае разьвядзеньне ягад на мэліяраванай балотнай глебе. Ураджай маліны праз адзін год пасьля пасадкі 5,5 *цнт* з *га,* праз два гады — 17 *цнт*, праз тры—20 *цнт.* Высокі ўраджай даюць трускаўкі. Першы год—8 *цнт*, а праз два гады—52 *цнт.*

Практыка досьледаў Балотнай станцыі знайшла свой адбітак і пацьверджаньне ў мэліорацыйных таварыствах на мясцох. Рост мэліорацыйных таварыстваў БССР з кожным годам павялічваецца. У 1924-25 годзе іх было 425, з 79 тыс. 666 членаў, а ў 1929-30 годзе налічваецца ўжо 1.300 і ахапляюць яны 261.500 членаў.

Дасягненьні таварыстваў у справе змаганьня за культуру балот прадстаўлены ў асобным пакоі павільёну дзесяткамі экспанатаў жыта, аўса, канапель, лёну...

На асушаным балоце пераходнага тыпу 1-ае Паварчыцкае мэліорацыйнае таварыства, Старобінскага раёну, пры ўжываньні мінэральнага ўгнаеньня дабілася ўраджаю аўса 39 *цнт* з *га.*

Ды ці толькі таварыствы? Дэманструюць свае посьпехі дзесяткі колектыўных гаспадарак Савецкай Беларусі.

Буйных посьпехаў дасягнула наша краіна на фронце мэліорацыі. Асушка Брагінскага, Мар'інскага ды іншых балотных масываў, на якіх зараз створаны соцыялістычныя гаспадаркі, высокая ўраджайнасьць палёў гэтых мэліораваных балотных абшараў, зьяўляюцца лепшымі агітатарамі за савецкую мэліорацыю. Толькі дзякуючы організацыі на Мар'інскім балоце буйных мэханізаваных гаспадарак соцыялістычнага сэктару за тры гады асушана 10.000 *га* балота і засеяна каля 3.000 *га* балотнай цаліны.

Балоты багаты торфам. Здабываюць яго на апал, падсьціл і ўгнаеньне. Тарфяны апал пачынае заваёўваць сабе ўсё больш пачэснае месца. Некаторыя раёны, як, напрыклад, Самахвалаўскі, амаль выключна ўжываюць на апал торф.

Мала ўвагі аддаецца торфу, як органічнаму ўгнаеньню. А між тым уплыў тарфянога ўгнаеньня на ўраджайнасьць вельмі значны. Калі гектар жыта без угнаеньня дае 7,5 *цнт*, дык з тарфяным угнаеньнем ураджайнасьць павялічваецца ў два разы.

Паказаны на выстаўцы ўзор тарфянога подсьцілу. Ён значна танней за саламяны, добра паглынае вадкасьць. Гной з тарфянога подсьцілу зьяўляецца найлепшым угнаеньнем для палёў, бо цалкам затрымлівае жыжку і аміяк. Пры ўжываньні яго спыняюцца хваробы ног жывёлы: макрэц, загніваньне стрэлак і г. д. Менш небясьпечны ён і ў часе пажару.

* * *

Па БССР да гэтага часу асушана 23.770 *га* балот. Пяцігадовы плян прадугледжвае асушыць 871.861 *га*, на што патраціць 50 мільёнаў р. дзяржаўных сродкаў. Нашай задачай зьяўляецца на працягу бл жэйшых гадоў заваяваць усе 2600 т. *га* балотных абшараў Савецкай Беларусі. Ад гэтай проблемы ў значнай ступені залежыць далейшае разьвіцьцё буйнага соцыялістычнага земляробства.

Праз мэліорацыю балотных масываў—дрыгвы да новых тысяч колектыўных гаспадарак, да новых соцен тысяч тон таварнага хлеба!

# ЧЫРВОНЫ ВІЦЕБСК БУДУЕЦЦА



ШВЭЙНАЯ ФАБРЫКА
Фото САЛАВЕЙЧЫКА

Новы дом дзяржбанку ў Менску. Рог Ленінскай і Савецкай.

Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА 15 КАП.

N 23-24





А РЫШТАВАНЬНЯХ!

ФОТО УЛ. СЕМЯНЯКІ

## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1931 ГОД

# САВЕЦКАЯ КРАІНА

НА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧЫ, НАВУКОВА-ПАПУЛЯРНЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

**„САВЕЦКАЯ КРАІНА“**—НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧЫ, НАВУКОВА-ПОПУЛЯРНЫ МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКІ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС—ЗЬМЯШЧАЕ АРТЫКУЛЫ НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА, НАВУКОВА-ПОПУЛЯРНАГА, ПОЛІТЫЧНА-МАСАВАГА, ПУБЛІЦЫСТЫЧНАГА, АПІСАЦЕЛЬНАГА ХАРАКТАРУ, А ТАКСАМА КРАЯЗНАЎЧЫЯ НАРЫСЫ, МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКУЮ КРЫТЫКУ, РЭЦЭНЗЫІ І БІБЛІОГРАФІЮ.

**„САВЕЦКАЯ КРАІНА“**—МАГУТНЫ БАРАЦЬБІТ ЗА МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКУЮ ІДЭОЛЁГІЮ, ЗА ДЫЯЛЕКТЫЧНЫ МЭТОД МАРКСА—ЛЕНІНА Ў КРАЯЗНАЎСТВЕ І НАВУЦЫ, МАГУТНЫ БАРАЦЬБІТ ЗА ГЕНЭРАЛЬНУЮ ЛІНІЮ КОМУНІСТЫЧНАЕ ПАРТЫІ.

**„САВЕЦКАЯ КРАІНА“**—ВАЯЎНІЧЫ ЗМАГАР З ВАРОЖЫМІ МАРКСЫЗМУ-ЛЕНІНІЗМУ ПЛЫНЯМІ Ў КРАЯЗНАЎСТВЕ І НАВУЦЫ, СТАВЯЧЫ ЗАДАЧУ ВАЯЎНІЧА ЗМАГАЦЦА З КОНТРРЭВОЛЮЦЫЙНЫМ БЕЛАРУСК. НАЦЫЯНАЛ-ДЭМОКРАТЫЗМАМ ЗА ПРОЛЕТАРСКУЮ НАВУКУ І КУЛЬТУРУ, ЗА САВЕЦКАЕ КРАЯЗНАЎСТВА.

**„САВЕЦКАЯ КРАІНА“**—СТАВІЦЬ ЗАДАЧАЙ МОБІЛІЗАЦЫЮ ШЫРОКІХ МАС НА ДАСКАНАЛАЕ НАВУКОВАЕ ДАСЬЛЕДВАНЬНЕ ВЫТВОРЧЫХ СІЛ БССР У ІНТАРЭСАХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА І НА НЕПАСРЭДНЫ ЎДЗЕЛ У ГЭТЫМ БУДАЎНІЦТВЕ.

**„САВЕЦКАЯ КРАІНА“**—ЗА САВЕЦКАЕ КРАЯЗНАЎСТВА.

**„САВЕЦКАЯ КРАІНА“**—ЗА ПЕРАБУДОВУ ЎСЕЙ КРАЯЗНАЎЧАЙ ПРАЦЫ НА НОВЫХ ВЫТВОРЧЫХ АСНОВАХ. КОЖНЫ ЗАВОД, КОЖНАЯ ФАБРЫКА, КОЖНЫ САЎГАС, КОЛГАС—ДАЁШ КРАЯЗНАЎЧЫЯ ЯЧЭЙКІ ДЛЯ ВЫВУЧЭНЬНЯ ВЫТВОРЧЫХ СІЛ У ІНТАРЭСАХ ПАСЬПЯХОВАГА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА.

**„САВЕЦКАЯ КРАІНА“**—ОРЫЕНТУЕЦЦА НА МАСАВАГА КРАЯЗНАЎЦУ. ПАРТЫЙЦЫ І КОМСАМОЛЬЦЫ, БЕСПАРТЫЙНЫЯ РАБОЧЫЯ, КОЛГАСЬНІКІ, БАТРАКІ, БЕДНАТА І ЛЕПШАЯ ЧАСТКА СЕРАДНЯКОЎ, СТУДЭНЦТВА, ВУЧНЁЎСКАЯ МОЛАДЗЬ, ВЯСКОВАЯ І ГАРАДЗКАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ, АДДАНАЯ СПРАБЕ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА—АКТЫЎНА ПІШЭЦЕ Ў ЧАСОПІС ВАШЫ КРАЯЗНАЎЧЫЯ ДОПІСЫ.

**ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ**

### УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| На год | | На 9 м. | | На 6 м. | | На 3 м. | | На 1 м. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 4 | — | 3 | 25 | 2 | 25 | 1 | 25 | — | 50 |

Падпіска з кожнага месяца

### ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:

У бюро падпіскі „Кніга-Поштай“ (Менск, Пляц Волі, 5), у рэдакцыі часопісу (Менск, рог Ленінскай і Унівэрсытэцкай, 29-35 Краязнаўства), ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых і акруговых краязнаўчых організацыях і ва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзярж. Выдавецтва і інш.

САВЕЦКАЯ КРАІНА ПРАДАЕЦЦА: у Цэнтральным бюро Краязнаўства пры Бел. Акадэміі Навук, ва ўсіх аддзяленьнях Белдзяржвыдавецтва і ва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.